Год II | Серада, 18 студня 1922 г. | № 11 (20)

# РАНІЦА

штодзенная грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак.
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.



*Вільня, 18 Студня 1922 г.*

Тэлегрема з Жэневы паведаміла рэзалюцыю, прынятую Лігай Народаў па Віленскаму пытаньню.

Рэзалюцыя, прымаючы пад увагу пратэст Ковенскай Літвы, заяўляе, што Ліга Народаў ня можа ў апрочцы, перэданай ёй дзеля разгляду адным з членаў Лігі, прыняць такую пастанову, якая выйшла бы з рамак заінтэрэсованых старон, бяз згоды абудвых заінтэрэсованых старон. Прадстаўнік Літвы—як і можна была чакаць, на гэтую заяву выразіў здаваленьне і сказаў, што Літва жадае, каб Віленскае пытаньне была перэдана на дазвол міжнарадоваму трыбуналу, ці арбітражу.

Прадстаўніком Польшчы рэзалюцыя Лігі Народаў была прадстаўлена Польскаму Ураду.

І вось 13 студня ў Варшаве сабралася спэцыяльная саймовая камісія па Віленскаму пытаньню, на якой міністар заграпічных справаў п. Скірмунт зрабіў заяву аб тым, што выбары ў Віленскі Сойм прайшлі ў поўным парадку, бяз даўленьня на выбаршчыкаў, і што праўдзівая большасьць насяленьня выказала свае жаданьне.

Гаворучы аб адносінах вялікіх дзяржаў да выбароў, п. Скірмунт падкрэсьліў, што выбары ў Сойм ня вызвалі міжнародавых пратэстаў, апроч літоўскага, але вызвалі ўвагі, скіраваныя да Польскага Ураду.

Напрыклад, Францускі Урад у нёс заяву, што прастая анэксыя Віленшчыны з'явілася бы апаснай палітыкай ў той час, калі аўтаномія Сярэдняй Літвы дала бы мажэбнасьць зрабіць згоду з Ковенскай Літвой ў будучыне. Прадстаўнік Англіі зрабіў паведамленьне, што ён не дае веры, што ў выбарах прыме учасьце большасьць насяленьня і прасьцярагаў проці далучэньня Віленшчыны да Польшчы. Прадстаўнік італьянскі выказаў, што якую-бы пастанову ня зрабіў Віленскі Сойм, Польшча ўсё роўна не павінна рабіць рэшучага крока. Сам п. Скірмунт пазыцыю Польскага Ураду апрадзяліў гэтак: развязаньне Віленскага пытаньня павінна быць у тым сэнсу, каб у будучыне была бы мажэбна згода з Коўнай, не гледзючы на тое, што ў цяперашні час такое згаджэньне не мажэбна. Канерэтна, п. Скірмунт заявіў, што ў данны момант мажэбна развязаньне Віленскага пытаньня пуцём далучэньня Сярэдняй Літвы да Польшчы па прынцыпу аўтаноміі, але гэтае далучэньне павінна быць цесным.

Пасьля гэтай заявы Рада Міністраў даручыла міністру ўнутрэніх справаў, апрацаваць закон аб далучэньні Сярэдняй Літвы, як праэкт Польскага Ураду, які будзе прадстаўлен дэлэгацыі Віленскага Сойму.

З усяго гэтага відаць, што ня гледзячы на пратэсты Ковенскай Літвы і выпады невялічкых груп жыхароў Срадкавай Літвы—віленскіх жыдоў, беларускай групы Віленскага Нацыян. Камітэту, беларускіх эсэраў, якія знаходзяцца пад уплывам габінэту п. Ластоўскага і часткі літоўцаў, пытане аб лёсе Віленшчыны ў хуткім часе будзе развязана і пры гэтым развязана так, як хоча большасьць насяленьня і як вымагаюць інтэрэсы беларускага народу.

Ворагі далучэньня Срадковай Літвы да Польшчы мелі пэўную надзею скарыстаць цемнату беларускага народу і яго палітычную несьвядомасьць, але абмыліліся. Народ не паверыў ні агітатарам п. Ластоўскага ні газэтам „Віл. Нац. Кам.“, якія вялі ўвесь час варожую кампанію проці выбароў ў Віленскі Сойм... Беларускі народ усей сваей масай пайшоў да выбарных урнаў і выбраў прадстаўнікоў ў Сойм. Гэтым ён паказаў, што не такі ўжо ён цёмны, не такі несьвядомы, каб можна была-бы лёгка яго ашукаць.

◆◆◆◆

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Весткі з Саўдэпіі.

МАСКВА 17. I (А. В.) Бальшавікі паведамляюць, што ў Чарнігародзкім вокрузе, Саратаўскай губэрні за месяц лістапад памярло з голаду 2210 чалавек, апроч таго захварэла 1151 ч.

У Балашоўскім павеце той-жа губэрні ў Юрачане з 3000 жыхароў пазасталося толькі 850.

ХАРКАЎ 17. I(А. В.) Як паведамляюць бальшавікі, ў склад новаго Украінскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ўвайшло 20 проц. бэспартыйных.

МЕНСК 17. I (А. В.) Апублікавана распараджэньне, забараняючае вываз жыўнасьці за мяжы савецкай Беларусі да заканчэньня збору прадналога.

МАСКВА 17. I(А. В,) Па афіцыяльным данным, Амэрыканскі Камітэт помачы, атрымаў за тры месяцы сваей працы каля 1.070.306 пудоў жыўнасьці.

МАСКВА 17. I (А. В.) Згодна з апошнім распараджэньнем жалезнадарожных ўладаў, новае зьмяньшэня штатаў жалезнадарожных служачых адносіцца да 1.783.308 чалавек.

ЛЕНДЫН. 17.1. (А. В.) „Erening Standart“ паведамляе, што новае спатканьне Лёйд-Джорджа з Брыанам будзе праз 14 дзён ў Лёндыне.

ПАРЫЖ. 17.1. (А. В.) Пуанкарэ дамагаецца зрабіць ў цяперашней гаранцыйнай ўмове вось якія зьмены: 1) запэўніць аднаўленьне ўмовы праз 10 г. 2) хаўруснае апрацаваньне генэральнымі штабамі мабілізацыйных плянаў, 3) запаўненьне хаўруснай англа-францускай інтэрвэнцыі ў выпадку нападзеньня немцаў на Польшчу.

ПАРЫЖ. 17.1. (А. В.) Розьніца паглядаў Пуанкарэ і Лёйд-Джорджа ў тым, што Лёйд-Джордж апіраецца на плян адбудовы Эўропы пры помачы немцаў, а Пуанкарэ - пры помачы Польшчы, Чэхаславіі, Румыніі і Югаславіі.

ПАРЫЖ 17. I. (А. В.) Паведамляюць, што сябры новага французскага габінэту вельмі прыхільны да Польшчы.

ЛЕНДЫН 17. I. (А. В.) Пасьля надварота Лёйда-Джорджа да Лёндыну, ангельскі міністэрыўм, па заграпічных справах будзе разглядаць гэтакія пункты: 1) заключэньне саюзу з Францыяй, 2) прызнаньне ўмовы, якая будзе зроблена на будучэй Генуенскай канфэрэнцыі, за першы крок у дамаганьнях рэканструкцыі Еўропы, 3) стварэньне новай сувязі народаў, маючэй у сабе Амэрыку, Маскоўшчыну і Нямеччыну.

РЫГА 17. I. (А, В.) Нямецка-латышскія перагаворы па адшкадаваньню за пастой немцаў на тэрыторыі цяперашней Латвіі зацягнуліся, бо немцы згаджаюцца заплаціць адшкадаваньня толькі за час ад 1 лістапада 1918 г., а латышы дамагаюцца адшкадаваньня за ўвесь час, лічучы з таго момэнту, як немцы ўступілі на іх зямлю.

РЫГА 17. I. (А. В.) Старшыня міністраў Мэйеровіч заявіў, што латышскі бюджэт ў гэтым годзе непрацарцыянакьна вялік: 9½ мільярдаў, калі ўсяго ў стране пушчана ў абег 2 с пал. мільярда латышскіх рублёў. Выпуск новых грошаў пагражае гаспадарству катастрофай, дзеля чаго трэба быць вельмі асьцярожнымі.

РЫГА 17. I. (А. В.) Даўгі Латвіі ў цяперашні момант раўны 51 с пал. мільёнам залатых рублёў, з іх 51 мільён. даўгоў заграпічных і толькі паўмільёна ўнутранніх.

КАТАВІЦЫ 17. I. (А. В.) „Gazeta Robotnicza“ паведамляе з Рацібожа, што паўднёвая група войскаў пад правадырствам маёра Бауэншыльда ад некалькі дзён стаіць на пагатове. У зьвязку з гэтым ходзяць пагалоскі аб новым нямецкім бунце.

ЛОДЗЬ 17. I. (А. В.) Ужо два дні ў Лодзі жыве Савецкая гандлёвая місыя пад правадырствам Горчакова. Мэта місыі — навязаньне прамысловых адносін. Місыя аглядала лодзінскіе фабрыкі і рабіла канфэрэнцыі з лодзінскімі прамыслоўцамі.

Да тых часоў умовы яшчэ ня зроблены. Выясьняецца, што ўсялякія заказы будуць аплачывацца польскімі маркамі. Місыя апрача сукеных і паперовых вырабаў шукае хімічных і мэталічных вырабаў.

◆◆◆◆

## Жах у Баранавічах.

(Ліст у рэдакцыю.)

У газэтах вельмі многа пісалася аб марным лёсе ўцекачаў, варочаючых з Саўдэпіі, аб усіх мытарствах, якія церпяць ні ў чым не павінныя людзі, аб цеснаце ў бараках, холадзе, заразных хваробах і вялізарнай сьмяртэльнасьці...

Але запраўднасьць перавышае ўсе апісаньня:

Напрыклад 13 студня ў Барановічы с Саўдэпіі прыбылі два цягнікі з уцекачамі, сярод каторых нашлося балей як 50 чалавек хворых плямістым тыфусам... І ніхто па дарозе не звярнуў увагі на тое, што хворыя едуць у адных вагонах з здаровымі паміраюць без дагляду без доктара і медзікамэнтаў.

Па дарозе з Каласова ў Барановічы памерла 12 чалавек.

Уся служба польскага санітарнага цягніка, прывёзшага хворых уцекачоў, зварочаючыхся на родзіну, захварэла тыфусам. Усе бальніцы у Баранавічах запоўнены хворымі ўцекачамі. Хворых, знайдзеных у цягніку 13 студня памесьцілі на вакзале...

Да й тых, што прыезжаюць здаровымі, так сама чакае хвароба і сьмерць. Бо большая іх частка ня мае цёплага

